# З Першым Маем, сябры!


# Ніва

Тыднёвік Беларускага грамадска-культурнага таварыства

№ 18 (1053) ГОД XXI 2 МАЯ 1976 г. ЦАНА 60 гр.


# Тарашкевіч — нязнаны

**(ІНТЭРВ'Ю З АЛЯКСАНДРАЙ БЕРГМАН, ДАСЛЕДЧЫКАМ СПАДЧЫНЫ ТАРАШКЕВІЧА)**



**Рэд. Дайшлі да нас весткі, што Вамі знойдзены зусім невядомыя працы Тарашкевіча з галіны мовазнаўства. Што гэта былі за працы?**

**А. Б.** Вы, журналісты, любіце сенсацыйныя адкрыцці. А я тым часам не магу сцвердзіць, што тое, аб чым хацела б расказаць, гэта справы „зусім невядомыя". Па-першае, некаторыя з іх былі ў свой час вядомыя, а цяпер яны ўжо забытыя. Па-другое, гэта факты, аб якіх не гаворыцца ў спецыялістычных выданнях, і таму могуць быць нават для зацікаўленых „адкрыццём", хаця, здавалася б, што з увагі на працу трэба было б іх ведаць. Але ёсць таксама нешта новае, што можа вас асабліва зацікавіць. Справа ў тым, што дагэтуль аб Тарашкевічу было вядома, што ён з'яўляецца аўтарам першай беларускай граматыкі і „многаабяцаючым вучоным". І гэта паняцце „многаабяцаючага" засталося і было шырока распаўсюджана. Быў гэта, магчыма, выпадак, можа, вынік яго бурлівага жыцця, а, можа, свядома распаўсюджанай легенды? Цяжка сказаць. Але сапраўдны яго вобраз зусім іншы. Быў гэта вучоны, які ўсё сваё жыццё прысвяціў беларускаму мовазнаўству. Працаваў у гэтай галіне ўсюды і заўсёды: у дарозе, у турме, у камандзіроўках, у часе дыдактычнай працы, у студэнцкія гады. Напэўна, было ў яго шмат незакончаных прац або не выдаваных нанава і таму пазней забытых. Адным словам, паняцце аб ім у цэласці як аб вучоным-філолагу зусім змянілася ў святле біяграфічных даных, якія ўдалося сабраць.

**Рэд. Хаця Вы так упарта ўцякаеце ад нашых журналісцкіх акрэсленняў, аднак усё ж відаць, што гэта будзе інфармацыя сенсацыйная. Дык, можа, пачнем па чарзе?**

**А. Б.** Добра. Першую граматыку Тарашкевіч выдаў у 1918 г. у Вільні ў друкарні Марціна Кухты. Мела яна шэсць выданняў: у гадах 1918, 1919, 1920, 1922, 1929 і 1931 (дагэтуль упамінаецца аб пяці выданнях; шостае выданне (1931 г.) выдадзена лацінскім шрыфтам).

**Рэд. Ці ўсе выданні былі аднолькавыя?**

**А. Б.** Пяць выданняў (уключна з апошнім) былі копіяй першага выдання. Але выданне V (падрыхтаванае да друку ў верасні ў Грудзёндзы) з'яўляецца працай, пашыранай элементамі беларускага сінтаксісу і новай прадмовай.

**Рэд. Гэта значыць, што Тарашкевіч працаваў і над элементамі сінтаксісу беларускай мовы?**

**А. Б.** Тарашкевіч працаваў не толь-


**(Працяг на стар. 2)**






Растуць новыя кварталы Беластока. Фота Я. Цялушэцкага.

VIII З'ЕЗД БГКТ

БАНК ДУМАК

# Немагчымае зрабіць магчымым

Аб нашым літаратурным руху і выдавецкай дзейнасці ГП таварыства гаварылася неаднойчы і не толькі падчас літаратурных семінараў, але таксама на старонках „Нівы". Зразумела, што несур'ёзна было б, пры пошуках матэрыяльных рэзерваў і пашаны да часу, паўтараць раней сказанае. Не трэба паўтараць тым больш, што факты нядаўняй гісторыі вельмі выразна захаваны ў памяці нашых пастаянных чытачоў і добразычлівых дзеячоў.

І таму, у сувязі з набліжаючымся чарговым з'ездам нашага таварыства, верачы, што немагчымае можна зрабіць магчымым, хачу тэзісна, без грунтоўнага абаснавання, выказаць свае меркаванні адносна выдавецкіх спраў.

1. Можна прывесці да парадку чорт ведае што ў дзейнасці гурткоў і інструктараў, у галіне збірання фальклору, працы музея, аддзелаў і ўсіх штатных працаўнікоў Галоўнага праўлення. Але нельга паправіць і павярнуць назад таго часу, які беспаваротна страчаны ў выдавецкай дзейнасці. Наша кніжка, надрукаваная не ў сваім часе, будзе ўжо толькі літаратурна-архіўнай рэдкасцю для вузкага кола спецыялістаў. Круга чытачоў, а заадно і сааўтараў мець яна не можа. Ну і вядома, кніжка без чытача — гэта вагон без пасажыраў, гэта стадыён без балельшчыкаў, гэта душа без цела, гэта ўрэшце дом, у які рэдка хто заходзіць. Таму выдаваць кнігі трэба сістэматычна і з такім рытмам, з якім яны ўзнікаюць у „лабараторыях" аўтараў.

2. Гляджу я на тыражы паэтычных кніжак Ружэвіча, Рымкевіча, Харасімовіча, Граховяка, Хэрбэрта, Івашкевіча. Успамінаю тыражы кніг Пушкіна, Фета, Блока, Ясеніна (савецкі перыяд у рускай літаратуры гэта іншы фенамен), а таксама Лоркі, Бадлера, Апалінэра, Уітмена і многіх іншых. І што? Як правіла, як закон, паэтычная кніга ніколі не выдавалася вялікім тыражом, але ў граніцах 700-1500 экз. Таму што паэзія — гэта не падручнік, патрэбны кожнаму школьніку. Гэта не сена, якім трэба карміць кожную жывёліну. А нашым


**(Працяг на стар. 2)**


# Перадз'ездаўскі пленум ГП

11 красавіка адбылося пленарнае пасяджэнне Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Беластоку. Удзельнічалі ў ім, апрача членаў ГП, старшы інспектар адміністрацыйнага аддзела Ваяводскага камітэта ПАРП Аляксандр Сеўка, намеснік дырэктара аддзела ўнутраных спраў Ваяводскай управы Альяш Федаровіч і прадстаўнік аддзела ўнутраных спраў беластоцкай гарадской управы Кшыштоф Ментка.

На красавіцкім пленуме абмяркоўваліся арганізацыйныя справы, звязаныя з набліжаючымся VIII з'ездам БГКТ, які адбудзецца 30 мая.

Ён абмеркаваў праект справаздачнага даклада аб дзейнасці БГКТ у бягучай кадэнцыі і праект праграмы VIII краёвага з'езду, накрэсліваючы асноўныя задачы на гады 1976-1980 (яны будуць прадстаўлены дэлегатам з'езду пад развагу). Удзельнікі пленума знаёміліся таксама з ходам справаздачна-выбарнай кампаніі ў гуртках БГКТ (выбары новых праўленняў у гуртках БГКТ і дэлегатаў на з'езд).

Пленум абавязаў Прэзідыум Галоўнага праўлення падрыхтаваць на VIII краёвы з'езд дэлегатаў БГКТ праект асабовага складу паасобных камісій з'езду, праект складу будучага ГП і Галоўнай рэвізійнай камісіі, а таксама правесці сустрэчы з дэлегатамі на з'езд.

Згодна з пісьмом Ваяводскай управы аддзела ўнутраных спраў з дня 20.VI.1975 г. знак СВ. III-901/10/75, акрэсліваючым патрэбу дастасавання структуры аб'яднанняў да новага адміністрацыйнага падзелу краіны, пленум Галоўнага праўлення БГКТ пастанавіў адклікаць у структуры таварыства функцыянаванне праўленняў аддзелаў БГКТ і займаемыя імі раней памяшканні прызначыць на клубы БГКТ, дзейнасцю якіх будуць кіраваць праўленні гурткоў. Усю дакументацыю аддзелаў прыняць у архіў ГП БГКТ. Пленум абавязаў членаў Прэзідыума ГП правесці да 20 мая пленарныя пасяджэнні і сустрэчы з дэлегатамі ў паасобных былых аддзелах, на якіх яны абмеркавалі б задачы для актыву ў новай структуры таварыства.

Пленум абавязаў Прэзідыум ГП правесці 20 мая пасяджэнне ў справе поўнай гатоўнасці да VIII краёвага з'езду Беларускага грамадска-культурнага таварыства.

Перадз'ездаўскі пленум праходзіў у атмасферы творчай актыўнасці. Пасля даклада-справаздачы разгарнулася жывая і змястоўная дыскусія. У дыскусіі выступілі: А. Баршчэўскі, Ул. Юзвюк, М. Хмялеўскі, Я. Зенюк, А. Рафаловіч, Я. Іванюк. Гаварылі яны аб выдавецкіх справах, пакупцы патрэбных кніжак у БССР, павелічэнні аўтарскіх сустрэч, рэактываванні дзейнасці лектарскіх груп, перасылцы даклада-справаздачы шырокаму колу дзеля лепшага азнаямлення, а перш за ўсё членам ГП, выездам актывістаў БГКТ у гурткі транспартам ГП.

Дыскусію падсумаваў старшыня ГП Мікалай Самоцік.

**Я. Цялушэцкі**
Фота аўтара



*Прэзідыум перадз'ездаўскага пленума Галоўнага праўлення БГКТ.*

# БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 208


* ✻ *

Беласнежная, ў тумане,
Быццам з'ява, за мной крочыш,
Таямніча мая пані,
Сярод пушчы цёмнай ночы.

Я пастукаю ў аконца —
Ты адчыніш мне свой хорам,
Белавежская старонка,
Маё шчасце і мой гонар.

**Ул. Гайдук**





## БАГДАН СМЫЛА

Нарадзіўся 21.III. 1922 г. недалёка ад Пінска ў вёсцы Любачын. Дзіцячыя і юнацкія гады правёў у Пінску і Беластоку. У апошнім у 1939 г. закончыў сярэднюю школу. Тут таксама потым вучыўся ў педагагічным інстытуце і займаўся спортам. У 1940 г. стаў чэмпіёнам горада ў кіданні дыскам. Выступаючы за клуб „Дынама" — Беласток на першынстве Беларусі ў Мінску, заняў II месца. У час нямецкай акупацыі працаваў электрыкам у беластоцкай друкарні і актыўна ўдзельнічаў у падпольным руху. Быў вязнем канцэнтрацыйных лагераў Маўттаўзен і Нацвайлер. Пасля вайны закончыў Горную акадэмію ў Кракаве (два факультэты: электрамеханічны і горны). Дактарант. Працаваў тэхнічным дырэктарам Інстытута механізацыі і канструктарскага бюро (1954-1970). Цяпер — галоўны спецыяліст Цэнтральнага бюро праектаў і канструкцый горных машын у г. Глівіцы. Аўтар 23 патэнтаў.

### Задуменнасць

*Зайздрошчу я птахам,*
*што шостым пачуццем,*
*сапхнутым ў пагарду інстынкту,*
*кіруюць сваім планіраваннем.*
*Нават птах — не птах*
*перапончаты —*
*бачыць форму шчыліны*
*ў глыбіні пячоры;*
*а мае вочы*
*шукаюць*
*пастаянна*
*святла ля яе выхаду...*

* ✻ *

*З пакутамі*
*ведаў XX века*
*паглядаю*
*ўсё далей і далей —*
*шчупальцамі*
*ласероў*
*хачу абмятаць*
*граніцу*
*бяскрайнасці*
*і злучаць галактыкі*
*ў працяг існавання...*
*І ведаю —*
*можна разбіваць без канца*
*тое, што найменшае*
*а так кароткачасовае,*
*што не хопіць жыцця*
*ста пакаленняў,*
*каб зразумець*
*памяркоўнасць*
*пазнання...*

## Няверная

*Як я Лявоніху любіў!..*
*Здаецца мне,*
*што і яна мяне кахала,*
*бо калі б не —*
*навошта ў госці прыязджала?*
*Ды як я ёю даражыў!..*
*Чакаў яе,*
*каб для мяне яна спявала*
*мелодыі свае,*
*віхром на сцэне танцавала...*
*заўсёды я ёй верным быў —*
*кахаў яе,*
*Лявоніху маю, нямала —*
*яна ж ка мне*
*чамусьці ездзіць перастала...*
*Цяпер яе і след прастыў,*
*даўно няма...*
*Ці мо так горад палюбіла,*
*што пра мяне зусім забыла?*
*Чакаць дарма?..*
*Я і расстанне перажыў,*
*хоць сэрца жме...*
*Эстраднай песенькі не стала,*
*народнай вопраткі ўдалай —*
*не толькі мне!...*

**У. Шклярук**

* ✻ *

Кволая дзяўчына —
будучая мама —
прабягае скверык
сарнімі нагамі.

Прабягае скверык
мамін цукерак.
Найшчаслівейшая
Верачка з Верак.

Перад ёю мячык
скача, як сабака, —
і ад гэтай стомы
Як жа не заплакаць.

Прападае ў гушчы
вясенняга рання
кволая дзяўчынка —
будучая мама.

**Янка Чыквін**

*Божа ад*
*слова*
*Ці думаў*
*калі*
*Што ты мне*
*першы*
*Як мама*
*родна*
*Навучыла*
*жыцця*
*Так ты мне*
*памог*
*Знайсці шлях*
*„...жніўня слоў".*

**Ваву**

* ✻ *

Хмелевым вінам
ноч нас ахутала
шчасця
чару
паднесла
зоры-вусны
срэбра
ўмачалі
і нам
дазволіла ноч
дакрануцца губамі
у сплеценых
далонях
заглядзеўшыся
у сябе
цішыні бяскрай
п'ем
як віно
ночы
срэбрнае — хмялёвае.

**Вераніка Леанюк**

Не гавары
Што прайшла вясна
Не гавары
Што забрала рака
Нашы мары і кветкі.
Глянь
У цені нашай восені
Родзіцца
Парастак зелені
Надзеі
Яшчэ зарана
На промак сонца
Але
Ужо дрыжыць у паветры
Толькі нам відочная
Вясёлка.
　Заменімся мы
　У іграючыя колеры
　Або ў кветкі
　Або ў птушкі
　Або ў песні
　Песні разлівістыя
　Песні ціхія-ціхія
　Мы створым музыку
　Арыгінальную
　Непаўторную
　Нашу ўласную.
Плывуць
Набіраюць румянцаў
Нашы думкі.

**Надзея Артымовіч**

## Любов всё тая сама

*як бы мы*
*нэ змінялісь*
*любов всё тая сама*

*муой дід цыловав бабу*
*так як ты тэпэр мэнэ*
*і мэнч нэ моўчалі*
*і буольш в зоры нэ дівілісь*

*і коб трохі*
*мэнч обычаёво*
*пшэпісовы былі*
*то нэ пхалі бы любві*
*в куткі тэмны*

*і коб шчэ трохі*
*часу мэнч міэлі*
*нэ сідіэлі б бы*
*до рана на лавці*
*а спотыкалісь бы*
*в біэлы дэнь*
*на гуліці*
*ідучы до школы*
*і нэ чуть нэ встыдавшысь*
*і зусіэм нэ маніфестовавшы*
*так нормально так просто*
*трымалісь бы за рукі*

**Зося Сачко**

## ГЕОРГІ САРГОНІН



Рускі паэт старэйшага пакалення, пражываючы ў Польшчы, часта наведвае варшаўскі аддзел БГКТ і сустракаецца тут са сваімі чытачамі. Нядаўна на аўтарскім вечары выступіў ён перад любіцелямі сваёй паэтычнай музы з лірычнымі вершамі з выдадзенага ў мінулым годзе зборніка „Тройка".

Варта прыгадаць, што „Тройка" з'яўляецца ўжо шостым паэтычным зборнікам Г. Саргоніна. Яго ранейшыя зборнікі — гэта „Северное" (1933 г.), „Весна в декабре" (1937 г.), „Стихи о Польше" (1959 г.), „Поэма юности моей" (1963 г.) і зборнік на польскай мове „Śnieg" (1970) у перакладах вядомых польскіх паэтаў.

Георгі Саргонін — сібірак усё сваё жыццё нясе ў душы і сэрцы вернасць да сваёй аснежанай краіны.

Вернасць да Радзімы і туга за Радзімай — характэрныя рысы ўсёй яго паэзіі. Гэтая тэматыка выступае і ў вершах, якія ў перакладзе на беларускую мову прапануем увазе чытачоў.

**Віктар Швед**

 СНЕГ 

Спяшаю да цябе, вялікая святыня!
Хачу ўцячы ад нуднага былога.
Толькі з табою жыць, толькі з табою згінуць
Ў абдымках пылу іскранога.

Спяшаю да цябе, пачуцці, нібы іней,
У россыпі брыльянтаў на заранку.
А снег прыкрыў жыцця і веры лінію.
Мая краіна — белая каханка.

**Пераклаў Алесь Барскі**

### Шчасце

*Я не знаю, што будзе са мною,*
*Калі „не" ты мне скажаш ізноў*
*І адыйдзеш дарогай зямною,*
*Дзе чакаў цябе столькі гадоў.*

*Цалаваў твае рукі так лоўка,*
*Праглядаўся у моры вачэй.*
*Не сустрэў у жыцці я сяброўкі,*
*Каб была за цябе даражэй.*

*Паўстрымаўшы злой смерці дыханне,*
*Славіў рускую мову, народ.*
*І расло ў маім сэрцы жаданне,*
*Каб цябе бараніць ад нягод.*

*Нечакана вялікае Русі —*
*Што здавалася мне незямной —*
*Пачуў голас: „К табе я вярнуся",*
*І ў душы пасяліўся спакой.*

**Пераклаў Віктар Швед**

### Душа

Спыніліся сані.
Замоўклі званкі пад дугой.
Што ж задумаўся так
на марозным шляху, дружа мой?

Ноч. Спяшаю ў Расію,
хутчэй бы дабрацца дамоў.
Коні ў пене. А месяц
вандруе па небе без слоў.

Вось канчаецца поле,
і лесу віднеецца ўскрай.
З агонькамі хаціны.
Прашу, мне душы не кранай!

Дажываю жыццё
і спяшаю дамоў на начлег.
Памятай, быў я чысты
заўсёды, як іней, як снег.

**Пераклаў Віктар Швед**

# ХРОНІКА

■ У Гародчыне (гміна Нарва) выбранае праўленне гуртка БГКТ складаецца з 7 асоб. Валянціна Ціханюк — старшыня, Ніна Бэбко — сакратар, Надзея Ціханюк — скарбнік, Надзея Антосюк, Марыя Антанюк, Валянціна Ляўчук і Сяргей Федарук — члены.

■ Белавежскі гурток БГКТ, які складаецца ў асноўным з мастацкага калектыву песні і танца „Белавежа", нядаўна на справаздачна-выбарным сходзе падсумаваў сваю дзейнасць, прысвяціў многа ўвагі хвалюючым справам свайго самадзейнага калектыву і выбраў новае праўленне: Віктар Мерынг — старшыня, Тамара Купень — сакратар і дэлегат на з'езд БГКТ, Янка Дмухоўскі — скарбнік.

■ У Махнатым (гміна Гайнаўка) гурток БГКТ узначаліў Іван Прычыніч, сакратаром з'яўляецца Галіна Кот, скарбнікам і дэлегатам на з'езд БГКТ — Ніна Бляўская, членамі праўлення — Іван Матвеюк і Павел Лаеўскі.

■ У Старым Корніне (гміна Дубічы Царкоўныя) ў склад праўлення гуртка выбраны: старшыня — Лявон Шэшка, сакратар — Раіса Куптэль, скарбнік — Барбара Тамашук і члены: Галіна Карпюк, Мікалай Лаўрыновіч, Рыгор Шварц, Вера Баравік і Янка Баравік.

■ У Старым Беразове (гміна Гайнаўка) ў новае праўленне гуртка выбраны: Іван Ільяшук — старшыня, Аляксандр Бірылка — сакратар, Іван Федарук — скарбнік, Лявон Пліс і Марыя Палавянюк — члены.

■ У Сухавольцах (гміна Кляшчэлі) гурток БГКТ ад нядаўна ўзначаліў Аляксандр Бажко. Сакратаром з'яўляецца Пётр Сідарук, а скарбнікам — Уладзімір Зелінко.

■ Пагрэбаўскі (гміна Кляшчэлі) гурток БГКТ старшынёй выбраў Івана Шыманчука, сакратаром — Мікалая Такаюка, скарбнікам — Івана Гапанюка.

■ У Тафілаўцах (гміна Дубічы Царкоўныя) ў склад праўлення гуртка ўвайшлі: Марыя Пень — старшыня, Вольга Дзіда — сакратар, Лідзія Дзімітрук — скарбнік, Іван Рыбак і Рыгор Рыбак — члены.

■ У новае праўленне гуртка БГКТ у Страшаве (гміна Гарадок) выбраны: Зінаіда Пракапчук — старшыня, Раман Суліма — сакратар, Аляксандр Антончук — скарбнік, Ірэна Яроцкая — член. (мх)

## ЛЮДЗІ ДОБРАЙ РАБОТЫ

# МІХАЛЬЧУКІ

Трохгектаровае гаспадарства не вельмі дазваляла разгарнуць шырокую дзейнасць у галіне апрацоўкі зямлі, вырошчваючы бульбу, буракі, ці другія карысныя расліны. А сядзець, зложыўшы рукі, не хацелася. Праўда, Мікалай Міхальчук не толькі не сядзеў, але нават і ў галаву яму такая думка не прыходзіла. Ён ужо шмат год з'яўляецца леснікам у Вульцы Тэрахоўскай, што ў гміне Чаромха. А Вера Міхальчук? Не сядзець жа ёй цэлыя дні без работы ў той час, калі муж амаль ад раніцы да вечара абыходзіць сваю зялёную армію. Падумаўшы, пагаварыўшы, і вырашылі заняцца гадоўляй свіней. Удасца не ўдасца, а паспрабаваць можна. Пачалі ад васьмі штук. Але было гэта чатыры гады назад. Зараз тут зусім інакш. Пабудаваны вялікі хлеў, дзякуючы якому і жывёлы прыбыло. Адных толькі мацёр маюць трынаццаць штук. Тут трэба сказаць, што ўсе свінні выводзяцца з іх уласнай гадоўлі, бо часта бывае так, што людзі купляюць парасят і толькі іх падгадоўваюць. Тут ад пачатку да канца ўсё сваімі сіламі. Чаго дабіліся ў галіне гадоўлі за чатыры гады, гляньце самі. Кожны год здаюць дзяржаве звыш шасці тон чыстага мяса, гэта значыць, штосьці ад 120 да 130 штук свіней у адной адпраўцы. Галоўным гаспадаром гэтага з'яўляецца Вера. Гэта не значыць, што муж ёй не дапамагае. Калі толькі мае вольную хвіліну, ахвотна бярэ на сябе частку гэтага цяжару. А што з зямлёй? Аблогам не ляжыць. Так, як і іншыя, аруць, сеюць. Але ўсё гэта толькі дзеля сваёй патрэбы. Частку поля адводзяць пад вырошчванне раслін, патрэбных для жывёлагадоўлі. У працы дапамагае ім гурток сельскагаспадарчых паслуг у Палічнай, з якім супрацоўнічаюць.

За сваю плённую і высакаякасную працу ў 1975 годзе Вера Міхальчук атрымала дыплом майстра прадукцыі і ўзнагароду ад беластоцкага ваяводы.

А як да іх адносяцца жыхары вёскі? Вельмі добра і цёпла. Мікалай Міхальчук ужо трэцюю кадэнцыю з'яўляецца радным у гміне, а яго жонка — сакратаром партыйнай арганізацыі ў сваёй вёсцы, гэта значыць Вульцы Тэрахоўскай.

**М. Шаховіч**



Хор з Беластока заняў другое месца ў катэгорыі фальклорнай песні.
Фота Я. Цялушэцкага.

**БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ-76**

**НАШЫ САЮЗНІКІ**

# Узнагароды для пісьманосцаў

Рэдакцыя „Нівы" прызнала ўзнагароды пісьманосцам, якія маюць найлепшыя вынікі ў падпісцы на „Ніву". Іх прозвішчы:

Уладзімір Гуралеўскі (пошта Рыбалы) — 160 падпісак, Уладзімір Весялоўскі (пошта Пасынкі) — 137, Мікалай Панфілюк (пошта Дубічы Царкоўныя) — 110, Уладзімір Місеюк (104) і Уладзіслаў Тыханюк (101) — абодва з пошты Стары Корнін, Васіль Орда (пошта Орля) — 95, Аляксандр Сахарчук (пошта Кленікі) — 91, Станіслаў Капэля (пошта Храбалы) — 87, Уладзімір Васілюк (пошта Нараўка) — 83, Мікалай Граматовіч — (82) і Мікалай Себясюк (79) — абодва з пошты Новае Беразова, Канстанцін Каліноўскі (пошта Старое Ляўкова) — 79, М. Паланкевіч (пошта Трасцянка) — 79, Мікалай Лясота (пошта Нараўка) — 75, Васіль Бількевіч (пошта Чыжы) — 70, Аляксей Галёнка (пошта Арэшкава) — 70, Мікалай Колнер (пошта Ласінка) — 68, Аляксандр Белабродскі (пошта Арэшкава) — 64, Андрэй Шэшка (пошта Кленікі) — 61, Ян Белавежац (пошта Ласінка) — 58, Аляксей Шульжык (пошта Клюковічы) — 43, Анатоль Якончук (пошта Тымянка) — 25. **(ця)**

(Працяг са стар. 2)

# ЗМІТРОК БЯДУЛЯ

не сонца і ў наша аконца". Галоўнымі героямі з'яўляюцца пераважна сяляне і вёска, паказаная ў рамантычным святле. Вобразы, перасычаныя паэтычнасцю, часта набіраюць экзатычнага выгляду. Галоўнай тэматыкай з'яўляецца любоў да сялян, якія будуць выступаць ва ўсёй творчасці пісьменніка, і нянавісць да несправядлівасці.

Аднак З. Бядуля больш вядомы як празаік. Піша шмат апавяданняў, якія друкуе ў „Нашай Ніве", перапоўненых рэалістычнымі малюнкамі з жыцця дарэвалюцыйнай вёскі. Паказвае яе забабоны і цемнату. Цэнтральнымі постацямі з'яўляюцца людзі бедныя, галодныя, якія не бачаць ані прычыны гэтай беднаты, ані шляхоў збаўлення ад яе. Супастаўляе ўмовы жыцця з маральнасцю. Усе апавяданні перапоўнены рэальнай вобразнасцю, якая ўводзіць чытача ў напружанне і хваляванне („Малыя дрывасекі", „Пяць лыжак заціркі", „Злодзей", „Летапісцы"). Часта ўзнімае тэму мастацтва. Паказвае лёс народных талентаў перад рэвалюцыяй („Велікодныя яйкі", „Малітва Габрусіка"). У савецкі час некалькі год працаваў у газеце „Савецкая Беларусь", быў рэдактарам дзіцячага часопіса „Наш край". Памалу пачаў уключацца ў нурт матываў новага часу. Быў прыняты ў літаб'яднанне „Маладняк", а потым ва „Узвышша". Пасля рэвалюцыі выдаў новыя зборнікі: „Пад родным небам" (у вершы), „На зачарованых гонях" (апавяданні), „Бураломам", „Апавяданні", „Выбраныя апавяданні", „Паэмы", „Танзілія" (навелы), раман „Язэп Крушынскі", „Салавей" (гістарычная аповесць), якая была экранізавана ў 1937 г., а таксама ставілася ў 1956 г. на сцэне тэатра імя Я. Купалы. Апошнім творам з'яўляецца „Сярэбраная табакера", напісаная ў жанры казкі.

З. Бядуля быў узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга. Памёр у пачатку Вялікай Айчыннай вайны 3.XI.1941 г. у час эвакуацыі каля горада Уральска.

**М. Шаховіч**

# Гайнаўская ОСМ дае высокую і якасную прадукцыю

Акруговая малачарская спулдзельня (ОСМ) у Гайнаўцы належыць да тых прадпрыемстваў, якое кожны год паспяхова выконвае свой прадукцыйны план. У апошнім часе перапрацоўвае ў сярэднім 110 тысяч літраў малака ў суткі, а спачатку, калі толькі заснавалася, перапрацоўвала ўсяго адну чацвёртую частку гэтай колькасці.

Колькасны рост прадукцыі ў гайнаўскай ОСМ ідзе, што вельмі важна, у пары з якасцю вырабаў з малака. 99% усёй прадукцыі масла і 86% сыроў класіфікуецца ў першы сорт. Заслуга тут стабільнага 130-асабовага калектыву. Варта дадаць і тое, што з мэтай павелічэння колькасці і якасці малочных вырабаў, прадпрыемства пастаянна мадэрнізуецца. Нядаўна гайнаўская малачарня атрымала новую, па-сучаснаму абсталяваную парашкоўню малака, якая будзе перапрацоўваць 40 тысяч літраў сырадою ў суткі.

Акруговая малачарская спулдзельня ў Гайнаўцы мае сваю краму, у якой жыхары горада маюць да выбару самы шырокі асартымент прадуктаў з малака. Асабліва ўсялякіх сыроў і тварагу.

Апрача таго, а гэта не без значэння, малачарня штодзень высылае свае самаходы з малаком у 26 школ. У рамках папулярнай на Гайнаўшчыне акцыі „шклянка малака для кожнага дзіцяці". (ця)

**БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА** — АЛЯКСАНДР БАРШЧЭЎСКІ

# НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

## ЦІШКА ГАРТНЫ — ЧАСТКА XVIII

**Жыццёвае і творчае credo.** У вершы „Ой, падуй ты, вецер" паэт заахвочвае вецер, каб дзьмуў безупынна і як наймацней. Па сутнасці ўвесь верш — гэта зварот паэта да ветру, гэта патрабаванне дынамікі, неспакою, націску і барацьбы. З дынамікай і сілай стыхіі ветру паэт спалучае сваю дынаміку і сілу — сілу сваіх рук і свайго сэрца. Гаворыць ён аб чаўне і вёслах, якія, паслушныя яго волі і мускулам, панясуцца наперад. У вершы выступаюць выразныя гіпербалічныя прыёмы. Аўтар насуперак рэалізму, але згодна з паэтычнымі рамантычнымі ўяўленнямі гаворыць, што яго човен, паслушны вёслам, будзе несціся „што вярсту ўперад за адну мінутку". З перабольшваннем маем дачыненне і ў тым фрагменце верша, дзе паэт гаворыць, што ўдары і стукат яго сэрца галаснейшыя і мацнейшыя, чым буранавы вецер. Усё гэта, хаця і не змяшчаецца ў праўдзе жыцця, але застаецца ў згодзе з праўдай паэзіі.

У вершы „Люб мне ветра гул шалёны" зноў вядучым матывам з'яўляецца матыў бурану. Пісьменнік „моліцца" магутнасці ветру, які схіляе да зямлі верхавіны дубоў. Паэт супрацьстаўляе цішыню буры. На яго думку, цішыня з'яўляецца сімвалам мяртвеччыны, а бура — гэта песня вызвалення.

*Люб мне ветру поспеў люты —*
*Яго песня вызвалення,*
*Калі цішы мёртвай путы*
*Усе губляе з аблягчэннем.*
*У дзікіх тонах яго зовы,*
*Сіла вежа маладая.*
*Рэчам мёртвым — рух жыццёвы*
*Ветрам повей надарае.*

Таксама ў наступным вершы „Пазыў" Гартны не адступае ад свайго любімага вобразу ветру. У гэтым праграмным творы паэт выяўляе жаданне поўнага атоесамлення з ветрам. Аўтар прагне мець ветравую непакорнасць, свабоду, вечны палёт. У перакананні паэта вецер з'яўляецца сімвалам поўнай незалежнасці і волі:

*Я хацеў бы ветрам быці,*
*Каб з няволяю расстацца,*
*Каб ў свабодным шчасным жыцці*
*Незалежнасцю ўпівацца.*

Няма сумненняў, што аўтар укладвае ў паняцці свабоды, незалежнасці, непакорлівасці грамадскі падтэкст, аднак трэба падкрэсліць, што выразна акрэсленых сацыяльных ці нацыянальных думак у вершы не хапае.

Цікавую пазіцыю ў праграмнай лірыцы паэта займаюць вершы „Не пакінь ты, надзея, мяне" і „Не пакінь ты, надзея". У вершы „Не пакінь ты, надзея, мяне" аўтар адыходзіць ад традыцыйных прыродных элементаў, тэматыка выразна расшыраецца. Паяўляецца ў ёй канкрэтная думка аб адраджэнні краіны і патрэбе веры ў гэта:

*Не пакінь ты, надзея, мяне,*
*На адну не пакінь ты хвіліну,*
*Дай глыбокую веру мне*
*У васкрэсшую верыць краіну.*
*Напаі маю душу вінам*
*Нестрыманай яскравай свабоды*
*І кажы мне галосна аб том,*
*Што заззяе яна й для народу.*

Як бачым, у вершы паэт умела спалучае сваё з агульным, уласнае з агульнанацыянальным. У гэтым якраз і праяўляецца істота выступаючай у вершы праграмы.

Яшчэ больш выразна ідэйнае credo пісьменніка выступае ў вершы „Не пакінь мяне, надзея". У вершы моцны класава-сацыяльны струмень, разбудаваны фрагменты, у якіх гаворыцца аб нядолі роднага краю і аб веры аўтара ў яго будучыню. Выразна супрацьстаўляецца тут адмоўнае сёння пазітыўнаму заўтра.

*Не пакінь мяне, надзея,*
*У чорную часіну,*
*Што я ўгледзіць шчэ сумею*
*Вольную краіну:*
*Што ў народзе хопіць сілы,*
*Хопіць цвёрдай мочы*
*Пераажыць цішу магілы*
*І цем дзікай ночы.*

Гэты верш пісаў Гартны ў далёкім Петраградзе ў 1915 годзе, калі Беларусь знаходзілася ў полымі першай сусветнай вайны. І ў гэты цяжкі час не пакідае паэта надзея. У гэтым і праяўляецца істота яго жыццёвага credo.

# У гміне Орля

У бягучай пяцігодцы ўзровень жыцця жыхароў Арлянскай гміны яшчэ больш узрасце. Наступіць далейшы ўзрост жывёлагадоўлі, ураджаяў з кожнага гектара, мадэрнізацыя прамысловасці, лепшае забеспячэнне таварамі як спажывецкімі, так і іншымі. Даставы тавараў на рынак павысяцца на 30%, а сельскагаспадарчая прадукцыя ўзрасце на 15%. Будуць выкарыстаны ўсе рэзервы, будзем сеяць больш інтэнсіўнай пшаніцы, а таксама і кукурузы. Пагалоўе жывёлы ўзрасце на 50%, свіней — на 43% і авечак — на 23%.

У РСП Крывая прадбачыцца ў хуткім часе аддаць у карыстанне аўчарню на 100 штук. У РСП Крывяцічы пабудуецца хлеўня на 120 свінаматак і 120 кормнікаў. СКР у Орлі разбудуе тучарню свіней. Таксама паўстане тучарня на калоніі Антанова, а ў Шчытах хутка пачне працаваць тучарня на 3 тысячы кормнікаў у год.

Узрост ураджаяў: збожжа на 60%, бульбы — на 38,8%, цукровых буракоў на 17,6% і алеістых — на 47%.

Пра гэта гаварылася ў час выбарнай кампаніі. І яшчэ ўзняты былі ў прыватнасці справы дарог з Орлі ў Спічкі, са Спічкоў у Бельск, з Паўлінава ў Чэхі Забалотныя і іншыя, а таксама справа вулічнага асвятлення вёсак: Кошкі, Грэдалі, Малінікі, Тапчыкалы і Грыгароўцы, між іншым, таксама і справа тратуараў у Рудутах.

Адказы на тыя пытанні даў начальнік гміны тав. Зінкевіч, а дырэктар Раёна публічных дарог — Ваўрэнюк запэўніў, што ў бягучым годзе закончыцца пабудова бітумічнай паверхні дарогі Орля-Пашкоўшчына вартасцю 10 мільёнаў злотых. Заканчэнне гэтай дарогі звязана з даездам да бітумічнай базы і ад гэтай дарогі залежыць будова далейшых дарог.

Адносна вулічнага асвятлення вышэй названых вёсак, дык яно таксама наступіць у гэтым годзе і звязана будзе з перабудовай энергетычнай лініі.

**К. Ляшчынскі**

## Людзі БГКТ

# АНТОН САКОВІЧ І ЯН ПАЛОЦКІ

Цяпер яны пенсіянеры. Членамі Беларускага грамадска-культурнага таварыства з'яўляюцца ад пачатку яго існавання. Значыць, роўна дваццаць год.

Антон Саковіч нарадзіўся ў вёсцы Супруны. У 1925 годзе 20-гадовы рабочы міхалоўскай фабрыкі, якая з'яўлялася ўласнасцю нямецкага фабрыканта, уступіў у рады КПЗБ і ўсё сваё жыццё звязаў з партыйнай дзейнасцю.

Пасля вызвалення ўступае ў рады ППР і пераязджае ў Міхалова, дзе ў 1948 годзе арганізуе млын і па 1970 год працуе яго загадчыкам. На працягу дваццаці гадоў быў сакратаром мясцовай партыйнай арганізацыі, радным і членам прэзідыума ГРН.

Антон Саковіч узнагароджаны Бронзавым і Залатым Крыжам Заслугі, значком „Заслужаны для Беласточчыны".

Ян Палоцкі — гэта вядомы міхалоўскі рамеснік. У гады Айчыннай вайны ён цесна супрацоўнічаў з савецкімі партызанамі: дастаўляў ім медыкаменты, харчы, шыў ім боты.

Вядзе ў Міхалове вулканізатарскае прадпрыемства.

Жыццёвыя шляхі Антона Саковіча і Яна Палоцкага сышліся ў 1956 годзе, калі яны арганізавалі павятовы аддзел Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Міхалове. Старшынёю яго быў выбраны Ян Палоцкі. Праўленне аддзела БГКТ мела сваю сядзібу ў будынку, дзе цяпер знаходзіцца гмінны цэнтр культуры. Поўнае светліцовае абсталяванне купілі за грошы, сабраныя з арганізаваных забаваў.

Ян Палоцкі і Антон Саковіч арганізавалі першыя гурткі БГКТ у Зубрах, Круглым Ляску, Новай Волі, Пяньках, Гарадку, Меляшках, Маставулянах, Ялоўцы, Шымках і ў іншых навакольных вёсках. Тады аддзел налічваў 120 членаў і быў адным з найбольш актыўных. Заклікалі яны людзей да будовы дарог, пасадкі дрэўцаў, пракладкі тратуараў.

Цяпер міхалоўскі гурток БГКТ — адзін з большых, ён налічвае 43 члены. Людзі гуртка — гэта працаўнікі мясцовай кравецкай і швейнай арцелі, дома культуры, ГС, індывідуальныя майстры і гаспадары.

Беларускае таварыства з'яўляецца ў Міхалове моцным звяном. У гэтым асяроддзі ёсць вялікія групы здольных і ахвотных да працы на культурнай ніве людзей. Між іншым, драматычны беларускі гурток вырас і сфарміраваўся па ініцыятыве і дапамозе членаў гуртка БГКТ. Самадзейнікі ставілі п'есы „Выварэжыла" Юркі Геніюша і „Трыбунал" Андрэя Макаёнка, з якімі паспяхова выступалі на аглядзе драматычных калектываў з беларускім рэпертуарам ў Беластоку, а пасля ў Кленіках, Бялевічах, Рыбаках, Баршчэве, Пяньках.

Ад 1970 года па сённяшні дзень звыш 40-асабовы гурток БГКТ нязменна ўзначальвае Антон Саковіч. Ян Палоцкі ў гэты час выконвае функцыю скарбніка гуртка. Клапоцяцца яны пра тое, каб усе члены БГКТ тэрмінова плацілі членскія ўзносы. Актыўна дапамагаюць у час справаздачна-выбарнай кампаніі правесці сходы ў гуртках БГКТ у навакольных вёсках. Правялі яны таксама шмат гутарак з дырэктарамі і настаўнікамі школ у справе навучання беларускай мове.

Яны — актыўныя прапагандысты „Нівы" і „Беларускага календара". Штогод прадаюць 70-90 календароў.

А. Саковіч і Я. Палоцкі — верныя актывісты БГКТ — карыстаюцца ў мястэчку аўтарытэтам, замацаваным гадамі іх цярплівай працы. Яны ведаюць тутэйшых людзей, шануюць іх і цэняць іх таленты. Заўсёды ахвотна служаць парадай і дапамогай маладым.

У бліжэйшы час намераны яны арганізаваць хор (ёсць дзяўчаты з прыгожымі галасамі на мясцовым швейным прадпрыемстве) і драмгурток (тут зварот у бок таленавітай моладзі з ліцэя). Ёсць грошы на культурна-асветную дзейнасць. А. Саковіч і Я. Палоцкі хочуць іх як найлепш выкарыстаць. Усё прадумалі загадзя — у іх вялікі жыццёвы вопыт.

**Янка Цялушэцкі**
фота аўтара



## ФАЛЬКЛОР

ВЯСЕЛЬНАЯ




*Prylecieu sokoł na nawieńki dwor,*
*usiądł sobie na ganeczku, roztoczył ogon,*
*usiądł sobie na ganeczku, roztoczył ogon.*
*A u sokoła ogon kolisty,*
*a u naszej panny młodej wianek złocisty,*
*a u naszej panny młodej wianek złocisty.*
*Powiedz Maryś raz, komu rączkę dasz?*
*I ten wianek z białej róży, co na głowie masz?*
*I ten wianek z białej róży, co na głowie masz?*
*Tobie Jasieńku, tobie najmilszy,*
*jak uklękniem przed ołtarzem w kościele na mszy,*
*jak uklękniem przed ołtarzem w kościele na mszy.*
*Będą nam grali, będą śpiewali,*
*a my młode, młodziusieńkie będziem ślub brali,*
*a my młode, młodziusieńkie będziem ślub brali.*
*A wy drużeńki weźcie chusteczki —*
*ucierajcie pannie młodej z oczu ślozońki,*
*ucierajcie pannie młodej z oczu ślozońki.*
*My ucieramy — ona wciąż płacze:*
*— Oj przez kogo ja, przez kogo swój wianek tracę?*
*Oj przez kogo ja, przez kogo swój wianek tracę?*
*— Ty tracisz przez mnie, a ja dla ciebie,*
*my oboje, serce moje, tracim przez siebie,*
*my oboje, serce moje, tracim przez siebie.*

Ад Марыі Лубнеўскай, 1914 г. нараджэння, і Чаславы Катовіч, 1940 г. нараджэння, баярская вёска Ахрэмавічы гм. Заблудаў, запісаў у лістападзе 1975 г. Мікалай Гайдук, нотная транскрыпцыя з магнетафоннай стужкі Людмілы Панько.

## Бібліятэка з традыцыямі

Бібліятэка Белавежскага нацыянальнага парку была заснавана ў першыя гады існавання ўстановы. Такім чынам, яна мае ўжо сваю больш чым 50-гадовую гісторыю. Зборы пачаў накопліваць першы кіраўнік парку праф. Язэп Пачоскі, які прыняў гэту пасаду ў красавіку 1924 г. У канцы 1926 г. у справаздачы свайму начальству ён называе аж 612 кніжак, якія сабраў галоўным чынам за гэты нядоўгі, 2,5-гадовы перыяд. Апеку над бібліятэкай прыняў у верасні 1928 г. наступны кіраўнік парку, праф. Ян Ежы Карпінскі. За 11 гадоў удалося яму давесці лік кніжак да 1.250 экземпляраў. Апрача таго, у бібліятэцы было 100 нумароў часопісаў.

II сусветная вайна не прынесла ўрону паркаваму кнігазбору. Праф. Я. Е. Карпінскі ў дакладзе на XX з'ездзе Дзяржаўнага савета аховы прыроды, адбыўшымся 26.X.1946 г. у Кракаве, называе 1.103 загалоўкі (у 1.313 томах) кніжак і 100 сшыткаў часопісаў (2.017 нумароў). Вялікая частка гэтага збору праз некалькі гадоў перайшла ў бібліятэку белавежскага філіяла Доследнага інстытута лесаводства.

Цяпер у бібліятэцы БНП звыш 2,5 тыс. кніжак і 623 камплекты перыядычных выданняў. Апекай над імі і іх павялічваннем займаецца ўжо больш дзесяці гадоў хавальнік фондаў Прыродазнаўчага музея БНП др інж. Чэслаў Акалаў. Ён ад самага пачатку наставіўся на тэматычнае ўкірункаванне збору. Перш за ўсё можна тут знайсці пазіцыі з галін аховы прыроды і энтамалогіі. Агромную частку займаюць таксама публікацыі, прадстаўляючыя вынікі навуковых даследаванняў, праведзеных на тэрыторыі Белавежскага нацыянальнага парку і цэлай Белавежскай пушчы. Увогуле першынство, каб трапіць сюды, маюць кніжкі аб Белавежы. Мноства тут розных вызначальнікаў насякомых, птушак, млекакормячых, грыбоў, раслін і т.п. Вялікі працэнт складаюць пазіцыі з галіны лясніцтва, крыху меншы з галін геаграфіі, гісторыі, паразіталогіі.

Своеасаблівасцю з'яўляецца, несумненна, у зборы бібліятэкі манументальная праца Георгія Карцова — „Белавежская пушча", выдадзеная ў 1903 г. у Санкт-Пецярбурзе. Кніжку гэтую падарылі парку навуковыя працаўнікі з беларускай часткі пушчы. Да „белых крукаў" залічыць можна таксама і IX том „Фізіяграфічнага дзённіка", выдадзенага ў Варшаве ў 1899 г, у якім змяшчаецца праца Ф. Блонскага і К. Дрымера „Справаздача аб батанічнай экскурсіі ў пушчу Белавежскую, Лядскую і Свіслацкую ў 1888 годзе".

У частцы часопісаў — найбольш гадавых сшыткаў „Польскага пісма энтамалагічнага", „Сыльвана", „Ушэхсвята", „Космасу", „Прыроды", „Лясу польскага", „Лоўца польскага" і т.п. Знаходзяцца тут таксама гадавыя сшыткі двух навуковых часопісаў „Акта тэр'ёлогіка" і „Фітоцэнозіс", рэдакцыі якіх змяшчаюцца ў Белавежы.

Зборамі бібліятэкі БНП часта карыстаюцца мясцовыя вучоныя, вучні Ляснога тэхнікума (і не толькі тэхнікума), падрыхтоўваючыся да пісання прац, працаўнікі, павышаючыя свае кваліфікацыі.

Шкада толькі, што пры бібліятэцы, якая знаходзіцца ў падзямеллі Прыродазнаўчага музея, няма дзе зрабіць чытальню. Архітэктары, якія праектавалі будынак (а з'яўляюцца імі В. Клышэўскі, Е. Макшынскі, Э. Вяжбіцкі), забылі на смерць аб такой дробязі.

**П. Байко**




**ФОТА ПА ЗАКАЗУ**

*Заказвалі Вера і Марыся Манцюк з Мікуліч.*

## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: У 1972 годзе Ф. заключыў са сваёй маці ўмову, на аснове якой меў даглядаць яе да смерці, а за тое меў атрымаць яе гаспадарку. Умова была заключана ў пісьмовай форме і пасведчана солтысам. Пасля смерці маці ў 1975 г. брат Ф. падаў у суд на пацвярджэнне наследства, і суд сцвердзіў, што наследнікамі гаспадаркі з'яўляюцца два браты ў роўных часцях. Суд не звярнуў увагі на тое, што ў павеце вялася справа аб прызнанні ўласнасці Ф. Як па закону павінна быць вырашана справа?

АДКАЗ: Умова, на аснове якой адзін перадае другому гаспадарку, а той абавязваецца датрымаць яго за гэта да смерці (звалася ў цывільным кодэксе „умовай дажывоцця"), можа быць заключана толькі ў натарыяльнай форме. У нашым прыкладзе бакі спісалі яе самі. Пасведчанне солтысам не мела ніякага значэння, умова гэта няважная, і Ф. на яе аснове не атрымаў ніякіх правоў. Таму суд правільна сцвердзіў, што наследнікамі гаспадаркі з'яўляюцца абодва сыны. Калі б Ф. атрымаў ад адміністрацыйных уладаў акт уласнасці, пастанова суда не перашкаджала б яму ў рэалізацыі яго правоў. Аднак няма законных асноў, каб Ф. мог атрымаць акт уласнасці. Закон з 26.X.1971 г. аб урэгуляванні ўласнасці сельскіх гаспадарак санкцыяніраваў гэткія ўмовы, калі яны былі заключаны перад 4 лістапада 1971 г. Умовы, заключаныя без натарыяльнай формы, пасля гэтай даты няважныя.

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Сніцца мне, што я з зяцем паехала ў Варшаву. Ходзім па вуліцах, і я кажу, што вось у Варшаве не толькі можна ехаць трамваем ці аўтобусам, але таксама і лодкай можна плысці. І вось ужо мы на ўскраінах горада. Шырокі луг, паросшы прыгожай травой, непадалёк лес, а пасярэдзіне луга цячэ рэчка. І па гэтай рэчцы мы плывем лодкай. У лодцы, апрача нас, сядзіць муж, жонка і дзіця. Плывем мы па глыбокай вадзе, але стаецца рэчка штораз плыцейшая, вада празрыстая, відаць жоўты пясок на дне рэчкі. І раптам я бачу, на беразе ляжыць лялька. Яна неапранутая. Я кажу зяцю: „Бяжы, вазьмі яе!". І ён вылез з лодкі і пабег, а мы паплылі далей. Вады рабілася штораз менш і ўрэшце не было зусім. Мы затрымаліся.

Анна

Анна! Сон ваш не благі. Лугі зялёныя і пышныя абазначаюць поспех у справах ці ўзбагачэнне. Іншая была б справа, каб вы бачылі лугі, спаленыя сонцам. Абазначала б гэта беднасць ці цяжкую хваробу.

Вы плылі ў лодцы з пасажырамі, і гэта вельмі добра, бо лодка без пасажыраў абазначала б сумнае адзіноцтва. Гэта вам прынамсі не пагражае.

Вада ў рэчцы, па якой вы плылі, была празрыстая, а пясок жоўты, бадай чысты. Гэта таксама добра. А яшчэ лепш было б, каб вы прычалілі да берага. Вы ўсё ж прыплылі на мялізну і затрымаліся. І, думаю, чакае вас добрае завяршэнне вашых спраў. Хаця... зяць з-за вас будзе мець нейкія дарэмныя клопаты, дарэмную працу. Гэта ж вы сказалі зяцю, каб ён вылез з лодкі і пабег узяць ляльку, што ляжала на беразе.

**Астрон**

## Куток практычных ведаў




### ЯК ЗРАБІЦЬ КАТЛЕТЫ ЦІ ІНШЫЯ СТРАВЫ СА ЗМЕЛЕНАГА МЯСА

Не толькі дзеці, хворыя ці старэйшыя людзі ахвотна ядуць стравы са змеленага мяса. Ахвотна з'ядуць іх і дарослыя, здаровыя людзі... пры ўмове, што стравы будуць смачныя.

Звычайна на змеленую мясную масу прызначаецца такое мяса, з якога нельга зрабіць іншую страву, — розныя малыя, абрэзаныя кавалачкі мяса, мяса з пярэдняй часткі тушы, у якім можа трапіцца значная колькасць сухажылляў ці плёнак, і г.д.

Падрыхтоўка мяса заключаецца ў тым, што яго трэба вельмі дакладна змалоць у мясарубцы з добра навостранымі нажамі.

Усе стравы са змеленай мясной масы найлепш падрыхтоўваць са свініны, змешанай з ялавічынай. Адна свініна была б затлустая, ды занадта яна вытапліваецца ў часе смажэння.

Каб змеленая маса была адпаведна пульхная і смачная, дадаем да яе намочаную ў малацэ чэрствую булку, якую пасля трэба выціснуць і таксама прапусціць праз мясарубку.

Каб уразнастайніць смак падрыхтоўваемых страў, дадаем да мясной масы цыбулю або часнок, дробна нарэзаную пятрушку ці ўкроп, а нават маладыя лісточкі селераў. Напрыклад, калі вы хочаце зрабіць біточкі ў таматным соусе, то часнок проста неабходны (многія гаспадыні ім пагарджаюць пры стравах са змеленага мяса!).

Каб маса мела адпаведную клейкасць, неабходна дадаць да яе сырыя яечкі. Каб атрымалася яна яшчэ больш пульхная, трэба, калі будзеце масу мяшаць, дадаць яшчэ крыху вады. Але каб маса атрымалася смачная, неабходна захаваць адпаведныя прапорцыі ўсіх гэтых прадуктаў.

Для падрыхтоўкі мясной масы з паўкілаграма свініны, змешанай з ялавічынай, трэба дадаць 5 дэкаў чэрствай булкі, 1 яечка, паўшклянкі вады, соль, прыправы. Спачатку мяса трэба дакладна змяшаць з вадой, а толькі пасля дадаць астатнія прадукты.

Змеленае мяса з адной цяляціны бывае вельмі далікатнае і да яго не абавязкова дадаваць яечкі, а замест вады варта дадаць малако. Каб маса не была занадта сухая, бо цяляціна ж, вядома, з'яўляецца мясам нятлустым, можна дадаць сырога масла.

**Гаспадыня**






Дарагое Сэрцайка, нам па 18 год. Мы жывем у адным горадзе і вучымся ў той жа школе, толькі ў розных класах. У мінулым годзе мы абое належалі да той самай арганізацыі, там мы пазнаёміліся і пачалі сябраваць. Як адна хвіліна, прамінуў год вучобы. Пачаліся канікулы, мы часта спатыкаліся. У новым навучальным годзе мы пасварыліся і нейкі час не размаўлялі. І аднойчы мая настаўніца паклікала мяне да сябе і сказала, што Валік у бальніцы і яго мама прасіла, каб я яго наведала. Я пайшла раз, другі. Але калі Валік вярнуўся з бальніцы, дык не адзываўся да мяне. Я пастанавіла спытаць, чаго ён злуе. Даведалася, што яму нагаварылі, быццам бачылі мяне з іншым хлопцам. Гэта праўда, але гэта не значыць, што я пакінула Валіка для гэтага хлопца. Мне здаецца, што можна са знаёмым хлопцам пагаварыць, пастаяць, а нават і прайсціся. Цяпер Валік, калі праходзіць каля мяне, уважліва глядзіць мне ў вочы, і я тады не ведаю, што рабіць. Сэрцайка, парай, як гэта растлумачыць Валіку. Я яго кахаю і хачу, каб між намі было, як даўней.

Міра з Гайнаўшчыны

Міра! Я таксама нязгодна з такім паняццем, што калі ходзіць дзяўчына з хлопцам, дык ужо ад усіх іншых хлопцаў павінна адварочвацца. Асабліва ў школе гэта немагчыма. Сяброў жа там шмат. І дзіўна было б не адзывацца да ўсіх толькі таму, што ты маеш хлопца, якога кахаеш. Валік зайздросны, як кожны закаханы. Падыдзі ты сама да яго, выясні. Ён напэўна і чакае гэтага, чаго ж так глядзіць табе проста ў вочы?...

**Сэрцайка**




Амаль два месяцы правёў у тыле праціўніка Кірыла Арлоўскі, шмат сцежак-дарожак праклаў з атрадам па родных беларускіх лясах.

З вялікім абозам, на якім партызаны везлі падарунак Чырвонай Арміі — свае баявыя трафеі, атрад выйшаў з лесу. Побач з камандзірам ішоў Канавалаў.

— А ведаеш, Ваня, калі б у нас былі аэрапланы, якія б маглі закінуць нас туды, — Канавалаў паказаў рукой на захад, — мы б яшчэ лепш папрацавалі. Як-ніяк вопыт маем.

— Здаецца, адпартызанілі мы з табой, — задумліва адказаў Арлоўскі. — Скончылася вайна.

Не ведаў тады Кірыла Пракопавіч, што яго партызанскае жыццё толькі пачынаецца, што яшчэ доўгія гады давядзецца яму хадзіць па небяспечных партызанскіх сцежках, якія любяць людзей моцных духам, з чыстым сумленнем і з гарачым сэрцам.

Новыя адказныя заданні партыі чакалі яго.

• • •

Размова ўсё больш набывала, здавалася Арлоўскаму, дзіўны характар. Праўда, спачатку ўсё ішло як быццам нармальна: інструктар ЦК Кампартыі Літвы і Беларусі пытаўся, Арлоўскі адказваў, расказваў, як арганізаваў атрад у Качэрыцкай воласці, як партызаніў у Рудабельскіх лясах, як яго хлопцы захапілі вялікі абоз у Зарыжжы... І раптам пытанне:

— Якія мужчынскія прычоскі вы ведаеце?

— Пад польку і пад гаршчок.

— Мала, вельмі мала. А чым адрозніваецца ваша „полька" ад „гаршка"?

— Пад польку мяне падстрыгалі ў цырульнях, а пад гаршчок я закругляў шавялюры братоў Дзям'яна і Паўла, ды партызан у лесе.

— О, значыць, у вас здольнасці цырульніка. Гэта добра, нават вельмі добра, — інструктара чамусьці ўзрадаваў адказ Арлоўскага. — Вы нам падыходзіце...

— Для чаго падыходжу? — не стрымаўся Арлоўскі.

— Для камандзіроўкі ў Літву.

— Але ж у Літве варожыя войскі. А ножны — не кулямёт. Якая ж сувязь паміж камандзіроўкай у Літву і прафесіяй цырульніка? — спытаў Арлоўскі.

— Самая цесная. Слухайце, усё там ідзе да ўзброенага паўстання. А паўстанне — справа сур'ёзная. З ім нельга жартаваць. Паўстанню павінна папярэднічаць вялікая арганізацыйная работа, грунтоўная ваенная падрыхтоўка. Вось чаму на дапамогу падпольным партыйным арганізацыям мы накіроўваем камуністаў, якія маюць вопыт ваеннай і партызанскай дзейнасці. Вы такі вопыт маеце? — інструктар уважліва, чакаючы адказу, паглядзеў на Арлоўскага.

— Але чаму вы спачатку цікавіліся маімі ведамі ў цырульнай справе? — замест адказу спытаў Арлоўскі.

— А вось чаму. Камуніст-падпольшчык, у якога павінен спыніцца наш пасланец, — цырульнік, мае невялікую цырульню ў Коўне. І, зразумела, было б вельмі добра, калі б наш пасланец хоць трохі цяміў у гэтай справе і змог стаць памочнікам гаспадара, — растлумачыў інструктар.

— Але ж які з мяне цырульнік? — шчыра здзівіўся Арлоўскі. — Адна справа — падстрыгчы родных братоў і непатрабавальных таварышаў, партызан і салдат, і зусім іншая — стрыгчы і галіць гараджан, афіцэраў, людзей, якія добра разбіраюцца ў модах на прычоскі, былі кліентамі ў вопытных цырульнікаў.

Давялося Арлоўскаму прайсці тэрміновыя курсы на Нямізе, ды яшчэ плаціць за навуку. Вядома, за некалькі дзён тонкасцей гэтай прафесіі не спасцігнеш, а вучыцца болей Арлоўскі не мог.

21 жніўня 1920 года разам з вопытным партыйным работнікам Мікалаем Урублеўскім ён нелегальна прыбыў у Коўна і пасяліўся ў цырульніка. Назаўтра гаспадар павёў яго ў майстэрню. Праўда, працаваў у цырульні Арлоўскі мала: больш часу ішло на сустрэчы з камуністамі і падпольшчыкамі. На канспірацыйных кватэрах і ў тайных мясцінах за горадам праводзіў ён з імі зборы і вучэнні. Усе камуністы былі аб'яўлены на ваенным становішчы. З іх і патрыётаў-падпольшчыкаў Арлоўскі, выконваючы даручэнні партыі, ствараў баявыя атрады і групы, гатовыя па першым сігнале выступіць на барацьбу. Спраў і клопатаў хапала.

Работа па падрыхтоўцы паўстання была паспяхова завершана. Кірыла Арлоўскі, Станіслаў Ваўпшасаў, Мікалай Урублеўскі і іншыя пасланцы партыі разам са сфарміраванымі і абучанымі імі групамі і атрадамі чакалі кур'ераў. Кур'еры прыбылі, але яны прывезлі паведамленне, што пастановай ЦК Камуністычнай партыі Літвы паўстанне адмяняецца. Адменена яно было ў сувязі з тым, што Чырвоная Армія адступіла з-пад Варшавы, а без яе падтрымкі паўстанне не магло мець поспеху.

У кастрычніку 1920 года Арлоўскі вярнуўся з Літвы і зноў паступіў у распараджэнне Рэўваенсавета Заходняга фронту.

*(Працяг будзе)*

# ТРЫБУНА чытачоў

## Шукаць майстра

Калісьці і пісалася ўжо на старонках „Нівы“, як гэта „будуецца“ святліца-раміза ў Тафілаўцах. Матэрыял ужо трэці год марнуецца пад голым небам. Тры тоны цэменту таксама змарнавалася за гэтую зіму. Што жалезнае — іржавее.

Фундамент жыхары вёскі зрабілі грамадскім чынам, таксама абавязаліся іншыя прасцейшыя працы выканаць сваімі рукамі. У чым жа тады прычына, што ніяк не можа распачацца будова? А ў тым, што найбліжэйшыя ўлады ніяк не могуць падабраць адпаведнага майстра-прафесіянала (з пасведчаннем). Знаходзяцца майстры, але, як кажуць, „без школы“ і таму яны „не падыходзяць“. А тыя, што са школай, чамусьці не вельмі горнуцца да гэтай працы. Яны прыватна больш заробяць. Ды і тыя, што „без школы“ — колькі яны людзям пабудавалі прыгожых мураваных хлявоў, клуняў, дамоў і не горш ад найлепшых прафесіяналаў! Ці ж не пабудавалі б святліцу? Няўжо лепш, каб усё змарнавалася да канца?

**П. Д.**




**ЛЕСАРУБЫ**

*Там за лугам пушча здрыганула,*
*Там шырока панеслося рэха,*
*Лесарубы павалілі дуба,*
*Волата-асілка пушчы-леса.*

*І на момант сумна лесарубам*
*Стала на душы пры гэтым дрэве,*
*Што стаяла дзвесце год, мо болей,*
*З галавой зялёнаю у небе.*

*Ціха размаўляючы з сабою,*
*Гладзілі рабочыя ствол дуба...*
*Сіні вочы думалі-гадалі,*
*Колькі зім пасвецяць лесарубам.*

**Мікалай Варанецкі**
Альхоўка




**Ніяк.** „Жабракі, жабракі“ не будзем друкаваць. Пагаворым на гэту тэму пры нагодзе, як будзеце ў Беластоку.

**Віт.** Пра выкарыстанне каменняў для будовы дарог ужо пісалі.

**Пётр Чайкоўскі,** вёска Нурэц. Адносна фота Цялушэцкага, змешчанага пры артыкуле Хмялеўскага аб гміне Нурэц, ваша праўда. Гэта (на здымку) вёска Нурэц, ды не ў гміне Нурэц, а ў гміне Боцькі. Дзякуем за водгук.

**Ул. Сідарук.** „Бельскага пчаляра“ паслалі ўжо ў друкарню, як і многія іншыя вашыя матэрыялы. Нешта ў апошні час падводзіце вы нас з вашай, вядомай усяму свету, сістэматычнасцю ў пісанні. Няўжо вясна?..

**М. Ляшчынскі.** Вельмі, вельмі рады развіццю нашага супрацоўніцтва на старонках „Нівы“. Пішыце (вы пытаеце пра гэта) і пра ваколіцы Нарвы і пра розныя вёскі, пішыце як найшырэй і як найбольш. Верш „Сардэчныя справы“ не апублікуем, усё іншае — так.

**Кастусь Пятэльскі.** Вельмі нам спадабаўся матэрыял пра вясковага лекара. Калі ласка, пабольш такіх, так добра напісаных. Усе жанчыны „Нівы“ шлюць спозненае, але тым больш сардэчнае дзякуй за паштоўку.

**В. А.** Вы пішаце вельмі многа і гэта цудоўна. Але, факт, некаторых інфармацый проста не паспяваем даваць — яны ў момант атрымання ўжо неактуальныя.

**Крыстына Парфенюк.** Здымкі, прысланыя вамі разам з матэрыялам, нявострыя, не выйдуць у газеце. Ці звярнуць вам?

**Ул. Грыко.** Ваш Бульва — рэдкі і цікавы філосаф. Пра яго можна па-рознаму. Як галасаваў ён — менш важна, давайце Бульву ў іншых сітуацыях.

**Анна Грыко.** Плянта. Вы пытаеце пра найбольш адпаведную вам школу. Для вас, бадай, найбольш адпаведныя школы: Эканамічны або Гастранамічны тэхнікум, абодва ў Беластоку, першы на Варшаўскай 63, другі на Кнышынскай 12. Увогуле зацікаўцеся ўсімі тэхнікумамі. Ёсць вячэрнія і завочныя. Усе яны былі пададзены ў „Зорцы“ з 21.III. г.г.

## Сукавіцкія мастакі

Вельмі модныя і заўжды харошыя гэтыя перабірыстыя дываны, якія ткуць па вясковых хатах жанчыны ў зімовыя дні. Яўгіння Кавальчук, Люба Матусевіч і Люба Лапата — гэта сапраўдныя мастакі ў вёсцы Сукавічы ў Шудзялаўскай гміне. Давялося мне пабачыць, як шчыра, дакладна і беспамылкова ткуць яны свае цудоўныя ўзоры! Гэта высокае мастацтва. Варта і трэба пахваліць ткачых і жадаць поспехаў у захоўванні народнага ткацтва.

**Я. Бандарук**

## Заслужаны бельскі лекар

Сярод узнагароджаных у апошні час працаўнікоў службы здароўя бачым заслужанага бельскага лекара Барыса Еўца. Барыс Евец — кіраўнік раённай амбулаторыі 303 у Бельску. Атрымаў ён з рук старшыні Рады Міністраў ПНР Пятра Ярашэвіча Кавалерскі Крыж Ордэна Адраджэння Польшчы.

Са службай здароўя бельскі лекар Барыс Евец звязаны ўжо звыш 30 год. Распачынаў сваю працу ў час другой сусветнай вайны ў бельскай бальніцы, будучы яшчэ студэнтам медыцыны. Медыцыну ён вывучаў ад 1938 года ў Вільне, а потым у Львове. Вайна спыніла вучобу. У 1944 годзе быў мабілізаваны ў армію. Закончыўшы кафедру ваеннай медыцыны ў Любліне, атрымаў лекарскі дыплом. Пасля дэмабілізацыі ў 1946 годзе пачаў працаваць у Бельску.

„Спачатку было вельмі цяжка, — успамінае доктар Евец. — Не хапала адпаведных памяшканняў, медычных інструментаў і апаратуры. У свой першы лекарскі кабінет вымушаны я быў прыйсці з уласным крэслам. Прынёс таксама з хаты фанендаскоп, некалькі лістоў паперы і так распачаў прымаць пацыентаў. Працы было многа. Займаўся і хірургіяй, і акушэрствам, словам, усімі хваробамі, бо ў тыя часы лекараў было мала і трэба было спадзявацца толькі на ўласныя сілы“.

Многа добрага зрабіў доктар Барыс Евец за гады сваёй працы жыхарам горада Бельска і навакольных вёсак.

**В. С.**

## Сустрэчы з паэтам

### У ГАЙНАЎЦЫ

Гарадская публічная бібліятэка ў Гайнаўцы арганізавала ў сваім новым памяшканні спатканне моладзі і чытачоў беларускай літаратуры з нашым паэтам Алесем Барскім. Тэма была такая: у першай частцы — Айчынная вайна ў творах беларускіх пісьменнікаў і ў другой частцы — творчасць Алеся Барскага.

Са шчырым прывітаннем паэта і ўдзельнікаў сустрэчы выступіла вядучая сустрэчу Галіна Вайсковіч. Вялікае зацікаўленне выклікаў даклад др Аляксандра Баршчэўскага (Алесь Барскі) пра выдатных беларускіх пісьменнікаў і іх творчасць, звязаную з апошняй вайной. Найбольш увагі прысвяціў ён Васілю Быкаву, які і жыве недалёка ад нас — у Гродне.

У другой частцы ў лірычным настроі, пры свечках, пры ціхай музыцы Чайкоўскага вучні беларускага ліцэя Марыля Нічыпарук і Анатоль Ціханюк дэкламавалі вершы Алеся Барскага. На канец і сам аўтар прачытаў адзін са сваіх любоўных вершаў.

Вечар быў вельмі ўданы, за што і др. Баршчэўскаму і арганізатару — Гарадской бібліятэцы ад усіх удзельнікаў сустрэчы шчырае дзякуй.

Удзельнік сустрэчы
**Э. Вайсковіч**

### У ДУБІЧАХ

У красавіку дубіцкую школу наведаў беларускі паэт Алесь Барскі. У сваім выступленні расказаў ён вучням аб сваім творчым шляху, чытаў свае новыя вершы. Школьнікі, а таксама і настаўнікі былі ў захапленні ад творчасці і таленту Алеся Барскага і ў канцы сустрэчы масава пачалі купляць кніжку вершаў паэта „Жнівень слоў“, якую ён ахвотна падпісваў тут жа на месцы. Гэтага дня доўга не забудуць школьнікі дубіцкай школы. Многія пераканаліся, якая прыгожая і меладыйная беларуская мова ў творчасці іх выдатнага земляка і як трэба шанаваць і любіць яе. Шкада толькі, што такія сустрэчы рэдка бываюць у Дубічах Царкоўных.

**М. Панфілюк**

## Па напільнікі ў Гарадок

Пад такім загалоўкам быў змешчаны ў „Ніве“ № 12 за 21.III. артыкул. Калі яно так, дык па напільнікі ў Гарадок трэба і ад нас ехаць, бо ў нас у Бельску ёсць тры жалезныя крамы, а напільнік купіць няма дзе. Аднойчы я зайшоў у гэесаўскую краму, а там чалавек якраз пытае, ці ёсць напільнікі. Крамар яму паказаў напільнік-лапатку, кажа, сячкарню можна навастрыць. А чалавек адказвае: мне патрэбны трохвугольны да пілкі напільнік. Крамар даў яму аж два, бо крамар быў знаёмым таго чалавека. Калі я папрасіў адзін напільнік, ён адказаў: дзе я вам вазьму? Я кажу: дзе ўзяў тыя!

Шкада, што не маю ў Гарадку сваякоў ці знаёмых, то па пошце прыслалі б, бо Гарадок ад нас дзесьці далёка.

**Міхал Кірылюк,**
Кнаразы

## На першай практыцы

У красавіку ў групе сельскагаспадарчых школ у Бельску пабывала на сваёй першай педагагічнай практыцы пяць студэнтак па педагагічнай спецыялізацыі сельскагаспадарчай акадэміі (СГГВ) у Варшаве. Такая практыка першы раз была арганізавана ў гэтай групе школ. Будучыя настаўнікі глядзелі ўрокі, пазнавалі праграму навучання і падручнікі, знаёміліся з майстэрнямі, пазашкольнымі заняткамі, гурткамі зацікаўлення, бачылі працу і дакументацыю настаўнікаў, выхаваўчыя ўрокі, жыццё моладзі ў інтэрнаце. За два тыдні шмат чаму навучыліся. У канцы правялі некалькі ўрокаў самі. Гэта былі першыя экзамены. Пазнаёміліся таксама з горадам Бельскам, ваколіцай і гісторыяй нашай зямлі.

**Мікалай Няплоха**

## Вольныя сакольскія грачы

У горадзе Саколка каля вакзала ПКП растуць дрэвы, пад якімі людзі часта праходзяць, ідучы з вакзала ці на вакзал. На галінах гэтых дрэў грачы ўюць гнёзды, ужо распачалі 20 штук, напэўна будзе больш. Тут справа ў тым, што людзям, якія праходзяць пад гнёздамі, а праходзіць неабходна, грачы стаўляюць пячаткі на адзежы. Цяпер яшчэ пячатаюць мала. Але трэба прадбачыць, што ў іх будуць дзеці, і тыя будуць пячатаць не горш, а лепш ад бацькоў.

Што рабіць? Праўду кажучы, дрэвы патрэбныя тут. Грачы таксама патрэбныя, але іх пячаткі непатрэбныя. Ані на тратуары, а тым больш на вопратцы людзей. Тут трэба падумаць, як рашыць пытанне. А можа варта ў тым месцы паставіць вялікі парасон з фальгі, пад якім людзі маглі б праходзіць?

**Ніяк**

## Маркаў Выган

Сама назва гаворыць за сябе: калісьці жыў тут нейкі Марко. Маркаў Выган — гэта маленькая мясцовасць у Шудзялаўскай гміне, што ляжыць сярод сенажацяў і лясочкаў. Мала хто сюды заглядае, толькі зубры, якія ходзяць на волі і часта падыходзяць да хатаў.

Жывуць тут Лукашэвічы і Сабалеўскія. Зямля не найлепшая, аднак гаспадарыць можна добра, таму што ёсць многа сенажацяў. Добрыя ўмовы гаспадарам для гадоўлі малочных кароў і ялавічыны. Сена збіраюць маркаўцы па 80-90 цэнтнераў з гектара.

**Я. Бандарук**

## Моладзь атрымала пашпарты

Надзвычай урачыста прайшоў момант уручэння пашпартоў 22 маладым людзям, якім споўнілася 18 год. Урачыстасць адбылася ў святліцы ГС у Нараўцы. Сярод іх былі вучні з асноўнай сельскагаспадарчай школы, што ў Альхоўцы. Маладыя людзі з поўнай адказнасцю за сваю працу прынялі пашпарты. Уручаў Станіслаў Катоўскі — сакратар прапаганды ГК ПАРП у Гайнаўцы і Кастусь Майсеня — старшыня ГК ФАН у Нараўцы. Адначасова 20-ці асобам былі ўручаны членскія білеты Саюза сацыялістычнай сялянскай моладзі. Усю гэтую прыемную ўрачыстасць падрыхтаваў кіраўнік УСЦ у Нараўцы Баляслаў Сек.

**Аляксандр Закройшчык**

## У Адрынках беспарадак

Вёска Адрынкі ляжыць у паўночна-усходняй частцы гміны Нарва. Пабудавалі тут прыгожую прамыслова-спажывецкую краму. Ёсць супрацьпажарная каманда, якая пры дапамозе жыхароў сваёй вёскі пабудавала драўляны гараж на пажарныя прылады, а потым атрымала пажарны самаход „Жук“. Тры гады таму пажарнікі з Адрынак атрымалі ад былой павятовай каманды пажарных стражаў электрычную сілавую сірэну для трывогі ў выпадку пажару. Тры гады праляжала незмантаваная гэтая сірэна і так далей ляжыць, чакае свайго канца, бо калі яшчэ пару год праляжыць, то да канца знішчыць яе іржа.

Я не ведаю, хто гэтай справай павінен займацца — ці раённая супрацьпажарная каманда ў Гайнаўцы, ці можа гмінныя ўлады ў Нарве? Гэта справа, якая цягнецца ўжо тры гады з гакам. А колькі яшчэ будзе таго гака — не вядома.

**Шпілька з-пад Гайнаўкі**

## Гэта не 1 красавіка!

26.III. купіў я білет на поезд, што адпраўляўся а 14.22 з Беластока ў Саколку. Была гадзіна 14.05, як пачуўся голас у мегафоне, што поезд, ад'язджаючы з Беластока праз Саколку ў Кузніцу, стаіць на першым торы пры другім пероне, планаваны ад'езд а 14.22. Людзі выбеглі з пачакальні, бачаць: стаяць вагоны без паравоза, і пайшлі туды сядаць. Нехта спытаўся ў рабочага чыгункі, ці гэты поезд едзе ў Саколку? Рабочы паказаў другі поезд на тым самым торы аж за віядуктам. Людзі бягуць з клункамі, каб хутчэй у вагон, бо зараз жа поезд ад'едзе. Трошкі памясілі гразь каля вагонаў (а як цяжка было з клункамі сядаць без перона). Якраз а 14.22 з'явіўся міліцыянер ды пачаў людзей з вагонаў выганяць і крычаць, што хто не выйдзе, заплаціць 200 зл. Моладзь дык усміхалася, а старыя бабулькі выклінапі ды чуць не плакалі. Як усе людзі выйшлі, чыгуначнікі сказалі, што калі поезд паедзе да перона, тады каб сядалі. Поезд рушыў задам да перону, а моладзь пачала ўскакваць на ходу — аж страх, колькі магло быць калецтва. Поезд папхнуў тыя вагоны, што без паравоза, далей, а сам стаў на прызначанае месца. Усе людзі селі ў вагоны, і поезд ад'ехаў а 14.30. Гэты ж жарт не на месцы, калі б нават было і 1 красавіка.

**Ніяк**

**У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ**

### ПРА КЛЕЙНІЦКІ ПРЫПЫНАК

У нумары 1 „Нівы“ ад 4.I.76 апублікавалі мы карэспандэнцкую інфармацыю аб тым, што ў Клейніках — вялікай вёсцы, на прыпынку ПКС няма ніякай „будкі“ і людзі з Клейнік і ўсіх навакольных вёсак, чакаючы аўтобусаў, мерзнуць на марозе, мокнуць, як куры, на дажджы...

Вось адказ у гэтай справе начальніка гміны ў Чыжах, які кансультаваўся з ПКС — адказным за прыпынкі.

W odpowiedzi na notatkę prasową, zamieszczoną w tygodniku „Niwa" pt. „Potrzebny mały budynek", dotyczący budowy przystanku autobusowego we wsi Klejniki, informuję co następuje:

Zgodnie z planem społeczno-gospodarczym rozwoju gminy Czyże na 1976 r., uchwalonym na sesji Gminnej Rady Narodowej w miesiącu grudniu 1975 r., budowa przystanku autobusowego we wsi Klejniki nie została przewidziana z uwagi na ograniczone limity w budżecie gminy.

Uznając jednak słuszne wnioski mieszkańców wsi, dotyczące powyższej sprawy, zwróciliśmy się do Przedsiębiorstwa PKS w Białymstoku z prośbą o budowę tego przystanku przez w/w Przedsiębiorstwo w 1976 r.

W nadesłanej odpowiedzi — pismo z dnia 29 marca 1976 roku Nr P. PKS 42/200/52/76 wynika, że przystanek PKS w Klejnikach w 1976 roku nie może być budowany z uwagi na to, że nie ujęto go do realizacji w planie inwestycyjnym 1976 roku.

Nadmieniam, że powyższej inwestycji w ramach czynu społecznego nie możemy podjąć w bieżącym roku, ponieważ czyn mieszkańców wsi w 1976 roku koncentrowany będzie na budowie remizo-świetlicy w Klejnikach.

Naczelnik gminy
B. Nowik

**„Niwa" — Tygodnik RSW „Prasa—Książka—Ruch". Skr. poczt. 149. 15-950 Białystok. TELEFON 2-32-41. Wydawca Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe RSW w Białymstoku. PRENUMERATA: Oddziały „Ruchu", urzędy pocztowe i listonosze. Indeks 36911/36671.**

